Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (250) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 11 СНЕЖНЯ 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



ВЫСТУПАЕ ГАРАДОК

З ЦЭНТРАЛЬНАГА АГЛЯДУ МАСТАЦКІХ ГУРТКОЎ

# ГЛЯДАЧЫ НЕ ПАСКУПІЛІ АПЛАДЫСМЕНТАЎ

На цэнтральны агляд беларускай мастацкай самадзейнасці ў Беластоку (адбыўся 27.XI.1960 г.), арганізаваны ГП БГКТ і Аддзелам Культуры ВРН, закваліфікавана 5 гурткоў

Першым выступаў мастацкі калектыў з Гарадка. У яго выкананні глядачы пабачылі пастаноўку «Абразок з вясковага жыцця» і пачулі 6 песень. Калі разыходзіцца аб п'есу, дык трэба сказаць, што нямала было цікавых мастацкіх дэталяў, тонкіх псіхалагічных паваротаў у паасобных выканаўцаў. Найбольш адносіцца гэта да Ніны Цыванюк і настаўніка Сцяпана Зенюка. Прыемныя ўражанні пакінуў драмгурток. Гэтыя ж самыя асобы выконвалі і песні. Ужо многія беластаччане мелі магчымасць знаёміцца з іх рэпертуарам, і сёння, так як заўсёды, багата ўзнагароджвалі апладысментамі.

Затым на сцэне паяўляюцца самадзейнікі з вёскі Ляшукі (Гайнаўскі павет). Выступаюць яны з п'есай «На ўскраіне сяла». Гэты драмгурток дабіўся значных дасягненняў. Давялося шмат папрацаваць і мастацкаму кіраўніку, настаўніку Аляксандру Харкевічу, а таксама самадзейным артыстам, каб справіцца са сваімі заданнямі і магчыма найлепш са сваёй роляй справілася Галена Пташынска, якая выступала ў ролі Алесі. Ад прысутных на зале ляшукоўская моладзь атрымала заслужаныя бравы.

Ляшукоўцаў змяняюць самадзейнікі з Кляшчэляў. Танцавальны гурток захапляў беластаччан крыжачком, полькай Янкай і найбольш лявоніхай. Неабходна адзначыць, што танцавальны гурток мае ўсе магчымасці, каб стаць адным з перадавых на Беласточчыне. Самадзейнікі танцавалі бадзёра і з агеньчыкам.

Гэты самы гурток, якім кіруе светліцова Галіна Місеюк, выканаў таксама некалькі песень. Адной з іх была — частушкі Андрэя Самасея, якія друкаваліся ў «Ніве». Кожнае іх выступленне публічнасць узнагароджвала бурнымі воплескамі.

(Працяг на стар. 3)

# ЭТНАГРАФІЧНАЯ РАЗВЕДКА

## ў Гайнаўскім павеце

У мінулым годзе па ініцыятыве Аддзела культуры ВРН у Беластоку і ГП БГКТ была праведзена этнаграфічная разведка ў Сакольскім павеце. Разведка сабрала багаты інфармацыйны матэрыял аб сучасным становішчы культуры вясковага насельніцтва ў гэтым павеце.

Сёлета ад 5 да 31 ліпеня таксама была праведзена такая ж разведка ў Гайнаўскім павеце, якую ізноў фінансаваў Аддзел культуры ВРН у Беластоку. Усе працы ва ўспомненых паветах праводзіліся этнографам мгр М. Пяцюкевічам — навуковым працаўнікам Этнаграфічнага музея ў Торуні. Мгр Пяцюкевіч працаваў разам з групай студэнтаў — практыкантаў з Кракаўскага Ўніверсітэта, якія аказалі дапамогу ў этнаграфічных пошуках.

Дзякуючы добрай пагодзе, добраму транспарту і іншым спрыяльным умовам разведка прайшла даволі хутка і змагла прынесці добрыя вынікі.

Заданнем разведкі быў збор звестак аб народным мастацтве насельніцтва і яго сучасным становішчы. Мала таго, разведка змагла сабраць агульныя дадзеныя аб сучасным становішчы ўсіх галін народнай культуры, а перш за ўсё матэрыяльнай.

(Працяг на стар. 3)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# АБ ЗБОРНІКУ — КАЛЯНДАРЫ

У сувязі з паяўленнем у продажы «Навукова - літаратурнага зборніка і беларускага каляндара на 1961 год» мы звярнуліся да яго рэдактара, мгр Міхася Кураша, з некалькімі запытаннямі, адказамі на якія дзелімся сёння з Вамі, чытачы.

**— Хаця сам загаловак, мабыць, гаворыць многа аб характары выдання, аднак жа просім сказаць, які матэрыял увайшоў у зборнік.**

— Дазвольце адказаць крыху шырэй. На працягу чатырох мінулых гадоў Галоўным Праўленнем БГКТ выдаваліся беларускія каляндары. Але ад паловы 1959 года пры ГП БГКТ разгарнуў сваю працу Навуковы гурток. Дзеля хаця частковага папаўнення прагалу ў беларускім друку са зместам, блізкім беларускаму насельніцтву ў Польшчы, узнікла патрэба папулярызацыі некаторых лепшых прац членаў і сімпатыкаў гэтага гуртка ў друку. Вырашана выдаць на 1961 год каляндар - альманах.

(Працяг на стар. 2)



Глядачам спадабаліся выступленні нашых самадзейнікаў.



Сакратар ГП БГКТ Ул. Юзвюк уручае кіраўніку гуртка са Шчытоў Міраславу Кадзевічу дыплом і першую ўзнагароду — радыёпрыёмнік «Каліпсо».

# АБ ЗБОРНІКУ — КАЛЯНДАРЫ

(Працяг са стар. 1)

Цяжка прадбачыць, якая будзе апінія чытачоў аб зборніку. Аднак, можна агульна толькі сказаць, што змешчаны ў ім матэрыял павінен зацікавіць і атрымаць належную яму ацэнку сярод беларусаў. «Дагадзіць» усім нашым чытачам — справа нялёгкая. Але ў каляндары - альманаху змешчаны надта разнастайны матэрыял. На маю думку, чытачы рознага ўзроўню і зацікаўлення знойдуць у зборніку адпаведную сабе літаратуру. Людзей, якіх хвалюе гісторыя Беласточчыны, напэўна зацікавіць праца Г. Анаціка аб беларускай сялянскай Грамадзе, а таксама гістарычна - літаратурнага характару праца мгр А.. Баршчэўскага аб літаратурнай спадчыне нашага змагара Кастуся Каліноўскага, якога жыццё было цесна звязана з Мастаўлянамі і Беластокам. У шматвартаснай працы мгр У. Юзвюка «Гайнаўскі павет» чытач знойдзе многа цікавага, напрыклад, аб сельскай гаспадарцы Гайнаўшчыны ў мінулым і сённяшнім.

Асобную пазіцыю ў зборніку займае сабраны мгр М. Гайдуком беларускі фальклор Беласточчыны. Блізкія сэрцу песні, прыказкі, прымаўкі, казкі і загадкі, папярэджаныя простай і змястоўнай прадмовай, прыпомняць чытачу аб мінулай долі беларуса, напоўняць сэрца часам сумам, часам весялосцю. Не гаворым тут ужо аб навуковай вартасці гэтых старонак.

Затым, апавяданні, вершы, гумар і сатыра. Цікавая і блізкая па зместу нашаму сялянскаму асяроддзю п'еса Я. Блізнюка і У. Цілюлькі «Дзесяць гектараў», якую напэўна ўнясуць у свой лёгкі рэпертуар вясковыя драматычныя гурткі.

У каляндары паданы новы і стары стылі, імяніны і адзначаны святы. Паданы таксама на кожны дзень усход і захад сонца, фазы месяца і г. д. Некалькі старонак з жыцця БГКТ, затым парады гаспадыням і гаспадарам і каляндарны год у гаспадарцы.

Так, у асноўным, выглядае змест нашага каляндара-альманаха на 1961 год.

**— Ці гэтае выданне каштоўнае?**

— У сэнсе коштаў — вельмі, а адносна вартасці, апрача вышэйшага павярхоўнага агляду зместу — ацэнку пакінем чытачам. Цана аднаго экземпляра (12 зл.) далёка не пакрываецца з коштам яго выдання. Падумайце толькі, аб'ём — 304 старонкі друку, добрая папера... Можа толькі вонкавая эстэтыка не будзе ў поўнай меры прапарцыянальная да зместу, коштаў і аб'ёму зборніка, але гэта залежыць у многім ад густу. Тая самая рэч не можа падабацца аднолькава ўсім.

**— Якія пажаданні будуць у вас да чытачоў?**

— Перш за ўсё хочацца пажадаць, каб наш каляндар - альманах знайшоўся ў кожнай беларускай сям'і. Добра будзе, калі чытачы падзеляцца з намі ўражаннямі пасля азнаямлення з гэтым выданнем, каб лягчэй было рабіць падбор матэрыялаў да наступнага падобнага выдання.

(іл)

# ФОТАВІТРЫНА



Варшава за[illegible]ды прывабная.



Новая амерыканская падводная атамная лодка.



У [illegible] (ЗША) паліцыя арыштоўвае ўдзельнікаў дэманстрацыі супраць узбраенняў.



Новы дзесяцітысячнік «Пхен'ян» у Шчэцінскай суднаверфі.

# КАЛАНІЯЛІЗМ ПАКІДАЕ СЦЭНУ

Зараз, калі пішам гэтыя словы, генеральныя дэбаты ў ААН аб ліквідацыі каланіялізма яшчэ працягваюцца. У спрэчках па гэтаму важнаму пытанню выступала ўжо звыш 70 дэлегатаў. Сярод выступаючых былі таксама прадстаўнікі ўсіх дзяржаў Афрыкі і Азіі. Іх выказванні мелі найбольшае значэнне. Праграма ліквідацыі каланіялізма, побач з пытаннем аб раззбраенні, належыць да самых важных пытанняў нашай сучаснасці. Як вынікае з дагэтуляшніх спрэчак, Генеральная Асамблея стаіць перад неабходнасцю прыняцця адной з трох запрапанаваных дэкларацый.

— Праект савецкай дэкларацыі дамагаецца неадкладнага прызнання незалежнасці ўсім калоніям, давераным і залежным тэрыторыям, а таксама ліквідацыі ўсіх чужых ваенных баз на гэтых тэрыторыях.

— Праект дэкларацыі 42 дзяржаў Афрыкі і Азіі нічым, у асноўным, не адрозніваецца ад савецкага праекта. Дамагаецца ён хуткай і поўнай ліквідацыі каланіялізма ва ўсіх яго формах. Дэкларацыя гэтых дзяржаў падкрэслівае права ўсіх каланіяльных народаў на самавызначэнне, права на ўладанне ўсімі прыроднымі багаццямі згодна з абавязваючым міжнародным законам.

— Праект дэкларацыі, запрапанаванай Гандурасам, выразна хоча адтэрміноўкі рашэння па пытанню аб ліквідацыі каланіялізма. Хаця прапаведвае ён «ліквідацыю каланіялізма», аднак прапануе пакліканне пяцiасабовай камісіі, якая вызначыла б «найлепшыя і дзейсныя» спосабы поўнай ліквідацыі каланіялізма і выступіла са сваімі рэкамендацыямі да будучай, XVІ-ай Сесіі Генеральнай Асамблеі.

Лёгка дадумацца, што праект дэкларацыі Гандураса ўзнік пад уплывам і пад моцным ціскам каланіяльных дзяржаў, а перш за ўсё Злучаных Штатаў. Хоча ён зменшыць і палажыць у доўгі яшчык гэтае важнае пытанне. Аднак цяперашні ўклад сіл у ААН не стварае спрыяльных умоў дзеля прыняцця дэкларацыі Гандураса. Яна з'яўляецца толькі спробай націску на краіны Афрыкі і Азіі, каб тыя згадзіліся прыняць папраўку да праекта дэкларацыі афрыканска - азіяцкіх краін, якая адпавядала б Захаду.

Дагэтуляшнія спрэчкі прынеслі вялікі маральны і палітычны поспех Савецкаму Саюзу, які, як вядома, быў ініцыятарам дыскусіі ў ААН па пытанню аб ліквідацыі каланіялізма. Дэлегаты афрыкана - азіяцкіх дзяржаў, а таксама прадстаўнікі другіх кантынентаў выражалі Савецкаму Саюзу ўдзячнасць за тое, што ён унёс гэтую справу на парадак дня ААН.

На аснове дагэтуляшняй дыскусіі ў ААН можна сцвердзіць, што думка аб неабходнасці неадкладнай ліквідацыі каланіялізма глыбока запусціла свае карэнні і незалежна ад выніку галасавання ніякая сіла не здолее гэтую думку пахіснуць. Дыскусія па каланіяльнаму пытанню з ініцыятывы Савецкага Саюза на XV Сесіі ААН аказалася надзвычай карыснай. Дзякуючы ёй зроблены прыкметны крок у справе ліквідацыі каланіялізма, як грамадскага ладу.

УЛ. ЛАЗІНСКІ




Артур аслабіў вузлы. Гэта яму ўдалося, таму што калі яго звязвалі, ён наўмысна напружыніў свае мускулы.

Так як у камеры вокнаў не было і асвятлялася яна электрычнай лямпачкай на стале, Даўэль не ведаў, ці наступіла раніца. Гадзіны цягнуліся павольна. Равіно пакуль што не з'яўляўся. Даўэлю хацелася піць. Неўзабаве ён адчуў прыступы голаду.

— «Няўжо ён хоча змарыць мяне голадам?» — падумаў Даўэль. Ён не ведаў, што Равіно выпрабоўвае моц яго характару. І Даўэль вытрымаў гэты экзамен.

Нягледзячы на голад і смагу, Даўэль заснуў. І гэтым самым прычыніў Равіно новую непрыемнасць. Ні яркі бляск лямпы, ні музыкальныя эксперыменты Равіно не выклікалі на Даўэля ніякага ўражання. Тады Равіно застасаваў новыя сродкі.

72

У суседнім пакоі санітары пачалі біць драўлянымі малаткамі па бляcе і трашчаць на трашчотках. Але Даўэль спаў далей.

«Здзіўляюча, — думаў Равіно, — дык гэты чалавек ведае, што жыццё яго вісіць на валаску».

— Хопіць! — крыкнуў ён санітарам.

Равіно не ведаў, што гэты непраўдападобны грукат разбудзіў Даўэля. Але Даўэль не паказаў гэтага.

«Даўэля можна знішчыць толькі фізічна,» — гэтакі быў прыгавор Равіно.

А Даўэль, калі грукат спыніўся, зноў заснуў пасапраўднаму і праспаў да вечара. Прачнуўся ён свежым і бадзёрым. Ён ляжаў з адкрытымі вачыма і глядзеў на ваўчок дзвярэй. Там віднелася чыесці вока, якое ўважліва сачыла за ім.

Артур, каб падражніць свайго ворага, пачаў напяваць вясёлую песеньку. Гэта было за шмат нават для Равіно. Першы раз у жыцці ён адчуў, што не ў стане авалодаць чужой воляй. За дзвярыма раздалося нейкае шыпенне. Вока знікла.

Даўэль працягваў спяваць усё галасней, але раптам папярхнуўся. Нешта раздражняла яго горла. Даўэль пацягнуў носам і адчуў пах.

Даўэль пахаладзеў. Ён зразумеў, што настаў яго смяротны час. Равіно атруціў яго хлорам.

Святло пагасла, і Даўэль быццам кудысьці праваліўся...

Апрытомнеў ён ад свежага ветра.

— Як вы чуецеся? — пачуў ён жаночы голас.

Гэта была Ларан.

— Значыць, я не памёр? — ціха спытаў Даўэль.

— На шчасце, не памерлі, але вы былі на валаску ад смерці, — сказала Ларан.

У суседнім пакоі пачуліся крокі, і Артур убачыў Ларэ. Ён крычаў:

73

— Чую гутарку! Значыць, ажыў. Здароў, сябра! Гэты шыбенік ледзь не атруціў цябе, бы мыш у караблі. Але, Даўэль, як мы правялі яго! Я зараз усё табе раскажу.

Схапіўшы мадэмуазэль Ларан і крыху пачакаўшы, мы зразумелі, што табе не ўдалося пайсці следам за ёю...

— Вы чулі мой крык? — спытаў Артур.

— Чулі. І змыліся, пакуль Равіно паспеў выслаць пагоню. Уладзіўшы Ларан, мы пачалі думаць аб табе. Вырашылі так: я і Шаўб дасталі паліцэйскія касцюмы, пад'ехалі на аўтамабілі да бальніцы і сказалі вартаўніку, што прыехалі на санітарны агляд. На нашае шчасце, ля варот стаяў не сталы прыварротнік, а просты санітар, які, відавочна, не быў знаёмы з інструкцыяй Равіно, якая патрабавала ў такіх выпадках званіць да яго.

Санітар адкрыў нам вароты, мы ўвашлі. Я загадаў прывесці нас у кабінет Равіно. Але другі санітар, да якога мы звярнуліся, быў, відавочна, вопытны чалавек. Ён сказаў, што даложыць і ўвашоў у дом. Неўзабаве да нас вышаў нейкі гарбаносы чалавек у белым халаце, з чара[illegible]шнымі акулярамі на носе...

— Асістэнт Равіно, доктар Буш.

Ён сказаў, што доктар Равіно заняты і што мы можам пагутарыць з ім, Бушам. Тады Шаўб, не доўга думаючы, узяў Буша за руку і вывярнуў яе. Буш крыкнуў ад болі, а мы прашлі міма яго і ўвашлі ў дом. Мы не ведалі, дзе шукаць Равіно. На шчасце, ён сам у гэты час шоў па калідоры. «Што вам трэба?» — груба спытаў Равіно. Мы зразумелі, што нам няма чаго больш іграць камедыю, і, наблізіўшыся да Равіно, быстра вынялі рэвальверы і накіравалі іх у яго лоб. Але тут насаты Буш ударыў па руцэ Шаўба і выбіў рэвальвер, а Раві-

74

# ГЛЯДАЧЫ НЕ ПАСКУПІЛІ АПЛАДЫСМЕНТАЎ

(Працяг са стар. 1).

Чацвёртым выступаў мастацкі гурток з Пянькоў (Беластоцкі павет). Яго рэпертуар складаўся з драматычнай часткі, у якую ўвайшла п'еса «Прымакі» і з харавой часткі, на якую зложылася некалькі беларускіх і рускіх песень.

Калі гаварыць аб драмгуртку, дык у ім выявіліся вельмі здольныя людзі. Асабліва Марыся Курак у ролі Даміцэлі заслугоўвае на пахвалу. Мастацкі гурток з Пянькоў працуе ў вельмі цяжкіх умовах. У Пяньках няма святліцы, няма нават электрычнага святла, рэпетыцыі праходзяць у цеснай вясковай хаце. Але нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасці артыстычная моладзь дала ўжо 11 выступленняў у сваёй і суседніх вёсках. Больш таго, гэты мастацкі гурток уложыў ужо 2 тыс. зл. са сваіх даходаў на электрыфікацыю вёскі. Адным словам таленавітыя і ахвярныя людзі ў Пяньках.

Цэнтральны агляд беларускіх мастацкіх калектываў закончыўся выступленнямі інструментальнага гуртка з вёскі Шчыты (Бельскі павет), якім кіруе Мірaслаў Кадзевіч. Да гэтага гуртка належаць таксама дзве салісткі з вёскі Парцава. З'яўляюцца імі сёстры Оля і Марыся Алешчук. Гэты дуэт пакарыў публіку. Бурныя апладысменты і «біс» прымушалі спяваць па два разы беларускую песню «Замуж пайсці, трэба знаці» і рускую песню «Цішыня».

Прыемна і радасна, што гэтыя дзве дзяўчыны з далёкай беларускай вёскі на Бельшчыне выклікалі такі водгук сярод усіх прысутных у перапоўненай зале кіно ТППР у Беластоку.

На высокім мастацкім узроўні выступаў і інструментальны гурток. І калі ён далей будзе працаваць пад кіраўніцтвам Міраслава Кадзевіча, ён стане адным з перадавых не толькі на Бельшчыне але і на Беласточчыне.

Журы вырашыла прызнаць першае месца мастацкаму калектыву са Шчытоў і ўзнагародзіла яго радыёпрыёмнікам «Каліпсо».

Аднолькава ацэнены мастацкія гурткі з Гарадка і Кляшчэляў. Гарадкаўшчане ўзнагароджаны адаптарам «Каралінка» і камплетам беларускіх грампласцінак, а кляшчэляўцы праектарам.

Мастацкія калектывы з Пянькоў і Ляшукоў заквaліфікаваныя на трэцяе месца. Гурток з Пянькоў атрымаў мандаліну, гітару, а гурток з Ляшукоў камплет балалаек і таксама камплет беларускіх грампласцінак.

Сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк кожнаму мастацкаму гуртку і кожнаму яго кіраўніку ўручыў дыпломы ад Міністэрства Культуры і ГП БГКТ.

МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ
Фота: ГЕНРЫХ РАГАЗІНСКІ



А цяпер некалькі слоў для «Нівы». З салісткамі Оляй і Марысяй Алешчук гутарыць рэд. Міхась Хмялеўскі.



Добра танцуе моладзь з Кляшчэляў.

## Семінар для бібліятэкараў аддзелаў БГКТ

27 лістапада ў памяшканні ГП БГКТ адбыўся семінар для бібліятэкараў аддзелаў БГКТ. Пасля кароткай справаздачы аб стане бібліятэк у паасобных аддзелах, прысутныя выслухалі цікавую і змястоўную лекцыю аб арганізацыі бібліятэк і метадах працы сярод чытачоў. Лекцыю правяла інструктар Павятовай бібліятэкі ў Бельску тав. Ліда Гурская.

Семінар выявіў сур'ёзныя недахопы ў працы бібліятэкараў: адсутнасць інвентарызацыйных кніг, планаў працы, а таксама адсутнасць арганізацыйнай ініцыятывы. З мэтай паляпшэння працы бібліятэкараў, падобныя семінары будуць адбывацца кожны квартал.

Л. Ф.

# ЭТНАГРАФІЧНАЯ РАЗВЕДКА
## ў Гайнаўскім павеце

(Працяг са стар. 1)

Робячы параўнанне на аснове сабраных матэрыялаў паветаў Гайнаўскага з Сакольскім, даходзім да пераканання, што Гайнаўскі павет яшчэ больш багаты і цікавы з этнаграфічнага пункту гледжання, чым Сакольскі, які таксама трэба лічыць запаведнікам народнай культуры, а асабліва народнага ткацтва.

Незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, беларускай ці польскай, насельніцтва Гайнаўшчыны дзеліць само сябе на розныя большыя ці меншыя этнанімічныя групы. У асноўным, насельніцтва павета дзеліцца на дзве групы: падляшаў і ліцьвінаў. Падляшы засяляюць прыблізна 2/3 тэрыторыі павета, а ліцьвіны 1/3. Ва ўлонні гэтых вялікіх груп існуюць дробныя групкі, напрыклад, зарэчаны, караеды, грэчанікі, пшанічнікі, ганчары, штокманы, шчокманы, шляхта, стаюны і г. д. Такія групавыя прозвішчы, або этнанімічныя групы прадстаўляюць каштоўны навуковы матэрыял для рэгіянальнай этнаграфіі, гісторыі і мовазнаўства. Гэтым пытаннем у першую чаргу павінны зацікавіцца этнографы і адпаведна яго распрацаваць.

Глянем толькі павярхоўна на сабраны этнаграфічны матэрыял, а ўжо поўнасцю пераконваемся ў мэтазгоднасці праведзеных разведак. Спынімся толькі на некаторых важнейшых галінах народнай культуры.

(Працяг на стар. 4)



Вятрак у вёсцы Палічна яшчэ не здаўся...

віно схапіў мяне за руку. На дапамогу Равіно і Бушу ўжо беглі санітары. Але іх збянтэжыла паліцэйская форма. Як Равіно не крычаў, што нашы паліцэйскія касцюмы — маскарад, большасць санітараў аддалі перавагу ролі глядачоў, і толькі нешматлікія адважыліся палажыць рукі на свяшчэнны і недатыкальны паліцэйскі мундзір.

Невядома, чым закончылася б гэтая бітва, калі б не Шаўб. Яму ўдалося падняць рэвальвер, і, не доўга думаючы, ён пусціў яго ў рух. Некалькі выстралаў адразу ахаладзіла санітараў. Але Равіно не здаваўся. Нягледзячы на тое, што мы прыставілі да яго скроняў рэвальверы, ён крыкнуў: «У мяне таксама знойдзецца зброя. Я загадаю сваім людзям страляць у вас, калі вы зараз не пойдзеце адсюль!» Тады Шаўб пачаў выкручваць Равіно руку. У Равіно косці храбусцелі, але ён усё яшчэ не здаваўся. «Што ж вы глядзіце? — крычаў ён санітарам. — Да зброі!» Некалькі санітараў пабеглі, відавочна за зброяй, іншыя зноў падступілі да нас. Я адвёў на імгненне рэвальвер ад галавы і зрабіў некалькі выстралаў. Слугі зноў акамянелі, апрача аднаго, які ўпаў на падлогу з глухім енкам...

Шаўб працягваў выкручваць руку Равіно. Нарэшце Равіно прахрыпеў: «Чаго вы хочаце?» — «Неадкладнага выдання Артура Дауэля» — сказаў я.

Равіно правёў нас да камеры, у якой ты быў зняволены і паказаў вачыма на ключ. Я адчыніў дзверы і ўвайшоў у камеру ў суправаджэнні Равіно і Шаўба. У камеры стаяў удушлівы пах хлора. Ты курчыўся ў апошніх сутаргах. Шаўб, каб не вазіцца больш з Равіно, стукнуў яго лёгенька знізу ў сківіцу і доктар пакаціўся на падлогу, бы куль.



Мы, задыхаючыся, выцягнулі цябе з камеры і зачынілі дзверы.

— А Равіно? Ён...

— Калі задыхнецца, то бяда невялікая, — вырашылі мы. Але яго, відавочна, вызвалілі... Выбраліся мы з гэтага асінага гнязда паспяхова, калі не лічыць, што нам давялося расстраляць апошнія патроны ў сабак... І вось ты тут... Так, дарагі мой, прадбачваюцца шумныя судовыя разборы. Равіно сядзе на лаву падсудных разам з прафесарам Кернам. Я гэтай справы не кіну.

— Але спярша трэба знайсці — жывую ці мёртвую — галаву майго бацькі, — ціха сказаў Артур.

*

Прафесар Керн так суцешыўся нечаканым вяртаннем Брыке, што нават забыў вылаяць яе. Дарэчы, было і не да таго. Джону давялося ўнесці Брыке на руках, прытым яна енчыла ад болю.

— Доктар, выбачце мне, — сказала яна, убачыўшы Керна. — Я не паслухалася вас...

— І самі сябе пакаралі, — адказаў Керн, памагаючы ўкладваць Брыке на ложак.

Увашла сідзелка, жанчына ў гадах з тупаватым выразам твару.

— Раздзеньце яе, — кіўнуў Керн на Брыке.

— А дзе ж мадэмуазэль Ларан? — здзівілася Брыке.

— Яе тут няма. Яна хворая.

Керн вышаў з пакоя.

— Вы даўно служыце ў прафесара Керна? — спытала Брыке новую сідзелку.

Тая прамармытала нешта незразумелае, паказваючы на свой рот.

«Нямая», — здагадалася Брыке.

Сідзелка моўчкі зняла пальто і вышла. Зноў з'явіўся Керн.



— Пакажыце вашу нагу.

— Я шмат танцавала, — пачала Брыке спраўдацца. — Неўзабаве адкрылася ранка на назе. Я не звярнула ўвагі...

— І працягвалі танцаваць?

— Не, але некалькі дзён я гуляла ў тэніс.

Керн уважліва аглядаў нагу і ўсё больш хмурыўся. Нага набухла да калена і пачарнела.

— Так... — Керн выняў сігару і закурыў. — Ці не раскажаце вы мне, што навогул здарылася з вамі з тых пор, як вы ўцяклі ад мяне?

— Я была ў сваёй сяброўкі. Яна вельмі здзівілася, убачыўшы мяне жывую. Я сказала ёй, што рана мая была не смяротная і што мяне вылечылі ў бальніцы.

— Пра мяне і... галаву вы нічога не гаварылі?

— Зразумела, не, — пераканаўча адказала Брыке. — Дзіўна было б гаварыць. Мяне палічылі б вар'яткай.

Керн уздыхнуў з палёгкай. «Усё абышлося лепш, чым я меркаваў», — падумаў ён.

— Але што з маёй нагою, прафесар?

— Баюся, што яе давядзецца адрэзаць.

Вочы Брыке засвяціліся страхам.

— Адрэзаць нагу! Маю нагу? Зрабіць мяне калекай?

— Не хвалюйцеся, пачакаем да заўтра, — сказаў Керн і вышаў.

У дзевяць гадзін вечара пачалося трызненне. Яе апанавалі кашмары. Потым зніклі. Яна ўбачыла сябе з Ларэ на тэніснай пляцоўцы. Сонца пячэ. Галава баліць і кружыцца. «Калі б не так балела галава... Гэтае страшнае сонца!.. Я не магу прапусціць мяч...» — і яна з напружаннем сочыць за рухамі Ларэ, які падымае ракету для ўдара. «Плей!»

(Працяг на стар. 7)



# АБНАЎЛЯЕЦЦА



На здымку 3 бачым прыгожы будынак старадаўняй гасподы турыстычнай, якой ганарыцца Белавежа. Тут на працягу цэлага года сустракаем шмат наведвальнікаў з усіх канцоў нашай краіны. Гасподу наведваюць таксама шматлікія замежныя госці.

Тэкст і фота
Л. МАЙСЕЮК

## РАБОЧЫЯ ГАЙНАЎКІ УСТУПАЮЦЬ У ПАРТЫЮ

На працягу 3 месяцаў г. г. Гарадскі камітэт ПАРП у Гайнаўцы прыняў у рады партыі 105 кандыдатаў. Большасць з іх — гэта рабочыя мясцовых прадпрыемстваў. Варта падкрэсліць, што ў гэтым самым перыядзе, у мінулым годзе, у партыю ўступіла толькі 27 жыхароў Гайнаўкі. Зараз партыйная арганізацыя горада Гайнаўкі налічвае 708 членаў і 118 кандыдатаў.

(вб)

З культурнага жыцця

## СУСТРЭЧЫ З ПАЭТАМІ

Чатыры дні нашыя паэты, Алесь Барскі і Віктар Швед, выступалі на аўтарскіх сустрэчах.

14 лістапада яны сустрэліся са школьнай моладдзю ў вёсках Дэніскі, Плёскі, Зубава і Пілікі, а вечарам з насельніцтвам вёскі Кнаразы, Бельскага павета.

15, 16 і 17 лістапада нашыя паэты наведалі школы ў вёсках Сацы, Трасцянка (Гайнаўскі павет), сустрэліся з насельніцтвам асады Нарва, пабывалі на сустрэчах са школьнікамі ў Беластоцкім павеце — у вёсках: Залукі, Валілы, Грыбаўцы, Скрабля́кі, Юшкавы Груд, Баршчэва, Рыбакі і Лука, а таксама з дарослымі Гарадка і Валілы — вёскі.

Сустрэчы выклікалі вялікую зацікаўленасць школьнікаў і грамадскасці.

Весткі з паасобных сустрэч гавораць аб тым, што падобныя мерапрыемствы неабходна наладжваць таварыству часцей, чым гэта рабілася дагэтуль.

(ую)

## ВЕЧАР ПРЫСВЕЧАНЫ ЗАБЭЙДЗЕ-СУМІЦКАМУ

Польскім радыёслухачам вядомы ўжо выдатны спявак, «беларускі Бэняміна Джылі», як яго некаторыя называюць, Міхась Забэйда - Суміцкі, які ў сучасны момант пражывае ў Празе чэшскай. У чэрвені г.г. спяваку споўнілася шасцідзесятая гадавіна з дня нараджэння. У сувязі з гэтай гадавінай 29 лістапада г. г. адбыўся ў Празе юбілейны канцэрт.

Варшаўскі аддзел БГКТ у сваім памяшканні 18 лістапада г. г. наладзіў вечар, прысвечаны Міхасю Забэйдзе - Суміцкаму.

Пятро Ластаўка, які асабіста знаёмы з Забэйдай, выступіў з цікавай прэлекцыяй аб жыцці і творчым шляху спявака. Яша Бурш прачытаў свой верш, прысвечаны Забэйдзе. На заканчэнне 35 прысутных на вечары асоб з захапленнем выслухала з грампласцінак беларускія песні ў выкананні Забэйды - Суміцкага.

Юбіляру жадаем доўгіх год творчага жыцця.

В. Ш.

## ДОБРЫ ПЛАН

Вечарам, 11 лістапада, хату Яшы Крушэля ў Сукавічах (Сакольскі павет) запоўніла моладзь і старэйшыя. Вырашаліся тут пытанні культурнага жыцця вёскі. Многа гаварылася аб належным выкарыстанні новапабудаванай святліцы. Вырашана даць пастаноўку п'есы Кандрата Крапівы «Валодзін гальштук» і вывучыць некалькі беларускіх песень.

Янка



Галена Швед (Новаберазова) славілася калісь прыгожымі ткацкімі вырабамі.

# НАЯ РАЗВЕД-
# НАЎСКІМ
# ЕЦЕ

Рэшткі народнага адзення знікнуць беззваротна разам з адыходам тых бабуляк, якія яшчэ ў старых скрынях перахоўваюць гэтыя неацэнныя прадметы народнай культуры для сябе на смерць.

### ТКАЦТВА.

Найбольш прыемнага можна сказаць аб народным ткацтве. Яно жыве ў цэлым павеце і ў бліжэйшыя гады не прадвяшчае свайго знікнення. Інтэнсіўнасць яго не ўсюды аднолькавая. У тых мясцовасцях, дзе менш свайго ткацкага матэрыялу: ільну і воўны, ды бліжэй да фабрычных цэнтраў, там ткацтва праяўляе меншую інтэнсіўнасць у сваім развіцці, а ў мясцовасцях, спрыяльных для народнага ткацтва, яно лепш развіваецца. У ткацтве важную ролю адыгрывае традыцыйнасць вытворчасці. Тыя вёскі, якія даўней славіліся таленавітымі і вядомымі ткачыхамі, тыя і да сёння захавалі даўнейшыя традыцыі. І сёння яны славяцца прыгожымі ткацкімі вырабамі як старымі, так і зараз тканымі. Трэба падкрэсліць суцяшальную з'яву, тую, менавіта, што сучасныя ткачыхі — гэта пераважна маладыя дзяўчаты, сярод якіх вельмі многа таленавітых мастачак. Важна ў сучасным ткацтве (і ў высокамастацкіх тканінах), што яно не парывае з традыцыйным народным ткацтвам. Менш гэтай традыцыйнасці назіраецца ў прамысловым ткацтве дываноў сакольскіх ткачых. Там многія ткачыхі цалкам парываюць з традыцыйным ткацтвам, а твораць на новых узорах, часта запрапанаваных гандлёвымі ўстановамі, якія набываюць іхнюю прадукцыю. На Гайнаўшчыне такіх ткачых вельмі мала і яны ткуць пераважна «лавіцкія пасякі». Трэба сказаць, што ткацтва Гайнаўшчыны яшчэ моцна трымаецца старых народных традыцый як з боку матэрыялу, так ткацкай тэхнікі і кампазіцыі колераў і ўзораў. Праўда, яно ўсцяж удасканальваецца, развіваецца, але не адрываецца ад роднага карэння, ад сваёй традыцыйнай формы. У гэтым, менавіта, і заключаецца яго каштоўнасць. Часта з-за недахопу свайго матэрыялу, або дзеля эканоміі часу, які затрачваецца на прадзіва, сучасныя ткачыхі ўжываюць фабрычную пражу — бавоўну, т. зв. «шпулькі», на аснову. Такім чынам, на жаль, тканіна траціць сваю этнаграфічную вартасць.

У гайнаўскім народным мастацкім ткацтве пераважае геаметрычны арнамент г. зн. даўнейшы мясцовы нацыянальны арнамент тканіны: пасы, краты і іншыя геаметрычныя фігуры. Навейшы арнамент — гэта раслінны і ён ужо радзей сустракаецца на тканінах, а вельмі рэдка выступае зоаморфны (звярыны) арнамент, «імпартаваны» перш за ўсё ад сакольскіх, дуброўскіх і іншых ткачых «ткацкіх дываноў». Вышываныя на ручніках пеўнікі таксама з'яўляюцца рэдкасцю. Гэты арнамент атрыманы ў спадчыну ад рускіх і ўзнік падчас першай сусветнай вайны, у той час, калі многія бежанцы былі ў Расіі. Многія з маладых таленавітых народных ткачых часта з'яўляюцца мастачкамі «на ўсе рукі». Яны не толькі ткуць каштоўныя мастацкія тканіны, але па-мастацку вышываюць і выконваюць усялякія саматужныя вырабы. Трэба тут успомніць пра таленавітую мастачку ткацтва і рукадзелля Ганну Шэшка ў вёсцы Стары Корнін, а таксама Зосю Харкевіч, Веру Крук і Ганну Антонюк з Навасадаў. Іх сотні, а можа і тысячы гэтых самародкаў - мастакоў, якія яшчэ з прыемнасцю садзяцца за кросны і твораць цудоўнае народнае мастацтва. Асабліва Гайнаўшчына гэтым славіцца і таму смела можа ганарыцца.

### АГУЛЬНЫЯ ДУМКІ АБ НАРОДНЫМ МАСТАЦТВЕ

Калі глядзім на ўсе акружаючыя нас матэрыяльныя прадметы, якія выйшлі з-пад рук простых вясковых людзей, калі спынемся на багатым беларускім фальклоры, тады здзіўляе нас хараство, высокае майстэрства і мудрасць народных творцаў. Калі ж углыбімся яшчэ і ў тайны народных ведаў, народнай філасофіі, то пераконваемся, што народная культура зусім не такая бедная як думаюць многія несвядомыя людзі.

Звернем яшчэ ўвагу на народнае мастацтва наогул, якога мы шукалі ў Гайнаўскім павеце. Ці знайшлі мы мастацтва і ў якіх відах яно праяўляецца ў сучаснай вёсцы? Пабачым, што ацалела з даўнейшага народнага традыцыйнага мастацтва, а якія яго галіны жывуць яшчэ да сённяшняга дня і развіваюцца?

Калі згодзімся з такім перакананнем, што просты вясковы народ спрадвеку любіў мастацтва і тварыў яго, бо яго душа і эстэтычныя пачуцці не маглі жыць без гэтай душэўнай стравы, то можам быць упэўненымі, што народнае мастацтва, творанае вякамі, не магло бясследна знікнуць за некалькі дзесяткаў год. Народнае выяўленчае мастацтва (якое ў польскай мове называецца «плястыкай») можна падзяліць на такія раздзелы: аздабленне, графіку, малярства і разьбу. Якія ж з тэтых відаў народнага мастацтва сустракаем яшчэ сёння сярод вясковага насельніцтва Гайнаўшчыны? Хапае пабываць у некалькіх вёсках Гайнаўскага павета і звярнуць увагу хаця б толькі на будаўніцтва як старое, так і сучаснае, а ўбачым багатае народнае мастацтва, якое выяўляецца перш за ўсё ў аздабленні хат. Які ж багаты мастацкі густ маюць звычайныя вясковыя цесляры і сталяры! Колькі ж там мастацкай кампазіцыі ў арнаментах геаметрычных, раслінных і зоаморфных (жывёльных), выразаных у дрэве для аздаблення шчытоў, хатніх нарожнікаў (вуглавой шалёўкі), у фігурах над шчытом, якія маюць сімвалічнае значэнне, у вокнах і аконных шалёўках, ганках. Ды і не толькі на хатах мы бачым аздабленне ў форме разьбы ці малярства, можам сустрэць мастацкія элементы і на гаспадарскіх будоўлях. Унутры сялянскіх хат таксама бачым многа народнага мастацтва ў рознай форме: на мэблі, выкананай вясковымі сталярамі, на розных прыладах хатняга ўжытку, на прасніцах, калаўротках, валкоўніцах і г. д., а таксама на вырабах кавальскіх, ганчарскіх, кашыкарскіх і г. д.

Аб справах этнаграфіі давядзецца нам яшчэ пагаварыць.

М. ПЯЦЮКЕВІЧ
фота аўтара






З савецкай сатыры

# БУЛАВОЙ па ПЕНТАГОНУ

Захацеў у Пентагоне
Ваяўнічы афіцэр
Знаць, што робіцца сягоння
На прасторах СССР.
Захацеў, сказаў: — Так трэба!
—Гуд!—зацвердзіў прэзідэнт,—
І рашылі з нашым небам
Распачаць эксперымент:
Локхід — У,
Локхід — 2
Хай ляціць
Аж за Масква!
Як рашылі, так зрабілі,
Далі тайнай справе ход,
Рознай дрэнню нагрузілі
Той шпіёнскі самалёт.
І аднекуль з Пешавара
Свайго выпусцілі пса,
І забраўся вышэй хмар ён,
Меней бачны, чым аса.
Маўляў, У,
Маўляў, 2
Для яго
Ўсё трын-трава.
І ляцеў шпіён заморскі,
Апарацікі ўключаў,
Дзе ракеты ў нас, дзе войскі —
Ўсё на плёнках адзначаў.
Ён ляцеў, чакаў за гэта
Ўзнагарод на цэлы год,
Ды не знаў, што ў нас ракета
Ёсць ужо і для яго.
Локхід — У
Локхід — 2,
Не хавайся
Як сава!
Хоць і ў Май, ды абарона
Ўся была ў нас начаку.
І заморскага шпіёна
Мы схапілі за руку.
Як ударыла ракета —
Пайшло рэха на ўвесь свет.
І пад смех усяго свету
Ўніз зваліўся прайдзісвет.
Локхід — У
Локхід — 2,
Пухне ў янкі
Галава!
Шпіка збілі мы па праву,
Ўсім вядомы наш закон!
І ад гэтакай праявы
Аж цямнее Пентагон.
Знае добра: больш не прыся
У савецкі агарод,
Бо, куды ні падыміся,
Не закончыцца палёт...
Кожны — У
Кожны — 2
Стукне
Наша булава!

**КАСТУСЬ КІРЭЕНКА**

# АКТЫВІСТКА

У нашай вёсцы карыстаецца зусім незаслужанай папулярнасцю цётка Тэкля.

Адукацыя ў яе скупая. Тэкля не закончыла пачатковай школы. Але ёй зусім не перашкаджае гэта ўсюды сунуць свой нос і поўным голасам выказваць свае меркаванні.

Здарыцца нешта ў вёсцы, дык цётка першая весткі аб гэтым разносіць. Ды яна і не перажыла б такой ганьбы, каб яе нехта апярэдзіў у гэтай грамадскай дзейнасці.

Дзеля хутчэйшага распаўсюджвання сваіх інфармацый цётка круціцца без справы ў краме ГС або ў злеўні малака, каля калодзежа, інакш кажучы, усюды там адкуль навасці далятаюць у розныя канцы вёскі.

Напрыклад, паявіцца на свет чорнае цяля з белай плямай на баку і цётка ўжо ў гаспадаровай хаце за галаву хапаецца, прычытваючы:

—Пранясі, Госпадзі, злую хвіліну. Нічога добрага з гэтай плямы, дальбог нічога.

Перапалоханая гаспадыня пытае ў трывозе:

— Ніяк не пайму, да чаго гэта, цяля ж здаецца як цяля...

— Пляма — гэта знак антыхрыста. Цяля назначана самым антыхрыстам. Над хлявом няшчасце вісіць. Больш нічога не магу сказаць і так зграшыла, вымаўляючы імя нячыстага.

Цётка, жагнаючы рот, выходзіць з хаты, а ўсхваляваныя гаспадары стараюцца як найхутчэй пазбыцца няшчаснага цяляці.

Пачне хлапец хадзіць да дзяўчыны і цётка ўжо расказвае аб іх кожнаму сустрэчнаму: «Маўляў не пара яны сабе і ўсякія іншыя глупствы. Будзе малоць датуль языком пакуль не даб'ецца свайго, што аб хлопцу і дзяўчыне загудзе ўся вёска.

Новы тавар прызязуць у краму і цётка ўжо чаргу ўстанаўляе і аб якасці тавару філасофствуе.

Калі хто захварэе ў вёсцы, без цёткі таксама не абыдзецца. Пакуль прывязуць доктара, яна сотню рад падасць, ад якіх хвораму карысць, што памершаму ад кампрэсаў.

Тэкліна характарыстыка аб людзях аказвае большы ўплыў, чым апінія грамадскай рады. Паспрабуйце толькі пакрыўдзіць цётку — ад балота не абмыецеся.

Таму ўсе жыхары нашай вёскі баяцца Тэклі, стараюцца ёй дагаджаць і няма адважнага, які захлопнуў бы дзверы перад яе носам.

А калі ў вёсцы ёсць такіх некалькі цётак, тады жыхарам зусім не весела даводзіцца.

Людзі добрыя, ці не здаецца вам лепш перад такімі цёткамі трымаць язык за зубамі, а сабак з ланцугоў спускаць?

*Дзядзька Лявон*














## Ой не кукуй зязюленька...

Ой не - ку - куй, за - зю - лень - ка, ра - на!
Ой ні ка - жы, што - но - чань - ка ма - ла

(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ)

Ой не кукуй, зязюлянька, рана!
Ой ні кажы, што ночанька мала.

Я малада ўсю ночку ні спала,
Міленькага з дарожкі чакала.

Ой прыехаў мой міленькі позна,
Параскідаў падушачкі розна.

На каго ж ты, мой міленькі, злуеш?
На што ж мае падушачкі псуеш?

Ці на мяне, жану маладую,
Ці на маю матулю старую?

Ні на цябе, жану маладую,
А на тваю матулю старую,

А на тваю матулю старую,
Што аддала замуж маладую.

— Было ня сеч зялёнага гаю,
Было ні браць ды з чужога краю.

Было ня сеч зялёнага дуба,
Было ні браць, калі я ня люба.

Было ня сеч зялёнінькай вішні,
Было ні браць, калі не пад мыслі.

Было ня сеч беленькай бярозы,
Ты ж мяне браў ні п'яны, — цвярозы.

Было ня сеч дубовінькай кладкі,
Было ні браць ад роднінькай маткі.

### ГАСЦІННЫ

Запрасіў Ігнат суседа ў госці. Ігнат быў скупы і пачаставаў госця сырой бульбай, гаворачы яму, што гэта апельсін. Калі Ігнат спытаў, ці добрыя апельсіны, госць адказаў:

— Апельсіны добрыя, толькі запах у іх сырой бульбы.

**С. Сэвэрын**
Мастаўляны

### ДОБРЫ СПОСАБ

— Чаму ты, бацьку, задумаўся? — пытае сын.

— А не бачыш ты дзірку ў лодцы. Праз яе цячэ вада.

— Нічога, мы праб'ем другую дзірку і вада выцячэ, — адказаў сын.

**Якуб Сабешук**
Паграбы




### КЕМЛІВЫ

Маці да сына:
— Валодзя, скажы сваёй настаўніцы, што не будзеш некалькі дзён у школе, таму што маем двух нованароджаных братоў.
— Скажу аб адным, мамачка, — адказаў Валодзя, — а другога захаваю на наступны раз.

**Зіна Іванюк**
Дубічы Асочныя

### ДОБРА

Муж да жонкі:
— Скажы, пайшла б ты ў кіно ў старой сукенцы?
— Ніколі!
— А то добра, бо я купіў толькі адзін білет.

**Анна Шымашок**
Беласток

### БАЧ ТЫ ЯГО

На вуліцы сустрэліся два сябры.
— Коля, пазыч сто злотых.
— А калі вернеш?
— Ну бач ты яго, яшчэ не пазычыў, а ўжо пра тэрмін пытаешся.

**Вячаслаў Савіцкі**
Гарадок